Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. | Вільня, 13 красавіка 1932 г. | № 12 (37)

## Праца саматугам.

Тая ўнутраная дывэрсія, якую рабілі і робяць нашыя ворагі ў нашым грамадзянстве, дала ўжо свае плады. Чужацкім агентам удалося шмат дзе пасеяць у душы народныя заразу недаверыя да тварцоў і натуральных павадыроў беларускага адраджэнскага руху, больш таго—да нашае нацыянальнае інтэлігенцыі наагул, — і вось шырокія народныя масы ў значнай меры аказаліся пазбаўленымі свайго інтэлекту, свайго мысьлячага цэнтру, аказаліся пакіненымі на ласку й няласку тых, хто ў душы сваей засудзіў наш народ на нацыянальнае зьнішчэньне...

Цяпер „паны палажэньня“ лічаць, што беларусаў можна ўжо ўзяць „голымі рукамі“. Дзякуючы гэнай унутранай дывэрсіі, мы ня маем свайго соймавага прадстаўніцтва. Дзякуючы ей-жа магла быць зроблена апошняя перапісь насяленьня так, што беларусаў у Зах. Беларусі акажацца зусім маленечкая „меншасьць“—сярод „чыста-польскае большасьці“ на „ўсходніх крэсах“. Дзякуючы ей-жа адна за аднэй ліквідуюцца беларускія культурныя пляцоўкі—школы, арганізацыі і г. п.

А ўсё-ж мусім тут рашуча заявіць, што трыумф дывэрсантаў — не такі поўны, як ім здаецца. Праўда, ўсё тое, што было дагэтуль наверсе — на вачох усіх, усё гэта ліквідуецца, занепадае. Але не ліквідуецца і не занепадае тая сьвядомасьць нацыянальная, якая глыбака пранікла ў масы. Дык, хоць масы пазбаўлены сяньня свайго натуральнага кіраўніцтва, усё-ж яны не перасталі быць беларускімі (як-бы ні называлі іх паны сьпісавыя камісары!), не перасталі думаць аб тым, што ўвабралі ў сябе ад сваіх старых прарокаў-павадыроў, і — хоць памалу, хоць у вузкіх межах, пачынаюць самі — саматугам — будаваць сваё нацыянальнае жыцьцё.

Мы атрымліваем з розных мясцовасьцовасьцяў інфармацыі аб такой саматужнай працы сялянства — бяз ніякіх партыяў, бяз ніякіх цэнтральных арганізацыяў. Гэтак недзе вырасла каапэратыва, якая ўжо здолела збудаваць уласную хату і зладзіць там нешта кшталтам народнага дому. У іншым месцы — нейкім цудам ператрываў усе рэпрэсіі гурток Т. Б. Ш., які мае сваю бібліатэчку-чытальню, ладзіць вечарыны-спэктаклі і г. п. Толькі ж нашыя інфарматары просяць не называць іх мясцовасьцяў: ведаюць, што ўраз-жа наляціць на іх варожае груганьнё і справакуюць, узарвуць іх працу, заклююць...

Адзіная галіна, дзе справа стаіць запраўды вельмі блага, гэта галіна народнага школьніцтва. Ня гледзячы на тое, што ў працягу чатырох гадоў народ наш падаваў дэклярацыі на сотні беларускіх школаў, — народнага школьніцтва беларускага ўсёроўна як няма, а пастаноўленая Урадам ліквідацыя адзінае вучыцельскае сэмінарыі ім. Фр. Багушэвіча, якая мела падгатаўляць настаўнікаў для беларускіх школаў, паказвае, што школьныя ўлады ўзыйшлі на шлях выключэньня беларускіх школ з сеткі ўрадавых народных школаў. Але затое патроху сяляне пачынаюць разумець неабходнасьць прыватнага навучаньня дзяцей прынамся беларускае граматы і дзе-не-дзе ўжо гэтае робяць.

Мы адзначаем тут усе гэтыя факты, каб людзі, пазбаўленыя арганізацыйных сувязяў з сваім грамадзянствам, ведалі, што навакол іх робіцца, што наагул — можна і трэба рабіць. Каб ведалі — і *каб рабілі*.

---

Гэтым выражаем шчырую падзяку ўсім тым, хто спачуў у нашым цяжкім горы з прычыны сьмерці нашае маці

сьв. пам.

† **Марыі Ільяшэвіч**

і дапамог нам у няшчасьці.

Асабліва дзякуем моладзі, якая уражліва адгукнулася на нашае няшчасьце і сардэчна нас зразумела.

Сям'я Ільяшэвічаў.

---

## Ліквідацыя дзяржаўнае вучыцельскае сэмінарыі ім. Фр. Багушэвіча у Вільні.

Згодна з загадам віленскага куратара, вучням сэмінарыі абвешчана, што з канцом гэтага школьнага году ўлада зачыняе сэмінарыю.

Гэтак двохгадовая праца сэмінарыі, якая падгатаўляла вучыцялёў для беларускіх урадавых школ, аказалася змарнаванай. Ясна, што і школ беларускіх урад адчыняць ня зьбіраецца, раз ліквідуе сэмінарыю... Справа зусім ясная.

Шкада бедных нашых дзяцей, якіх у сэмінарыі вучылася ўжо больш за 80. Куды ім цяпер кінуцца? У польскія сэмінарыі няведама, ці прынялі б, бо там пэўне іншы курс прайшлі, датарнаваны да польскае школы. А тым часам, калі дзяцей прыймалі, дык урад, як быццам, абязаўся давясьці іх навуку да канца, а не абарваць на паўдарозе. Хто верне дзецям страту і нагародзе зробленую крыўду?

---

## Пажар на Далекім Усходзе.

### Замест вайны з Японіяй—ізноў хатняя вайна...

Ваенная акцыя пад Шанхаем між японскай і кітайскай арміямі, як ведама, спынена ці прыпынена. Але адначасна з тым прыпынена ці спынена і тая згода перад абліччам супольнай небясьпекі, якая злучыла ў брацкім саюзе абедзьве кітайскія арміі—кантонскую і нанкінскую. І вось — абедзьве найбольш геройскія дывізіі, якія адстаялі чэсьць кітайскага аружжа і народу ў вачох усяго сьвету дый далі адпор „непераможным“ японцам, пачалі цяпер біцца на сьмерць адна з адной.

Калі пачалася ізноў хатняя і братняя вайна ў Кітаі, дык можна быць пэўным, што Японія пераможа на ўсей лініі...

### Ці Японія... прызнае „незалежную дзяржаву“ Манджу-Го?

Японскі мін. замежн. спраў Іошызава заявіў, што Японія пакуль што яшчэ „прыглядаецца“ да нова-паўстаўшай—на падставе самаазначэньня—дзяржавы Манджу-Го (так назвала сябе „незалежная“ Манчжурыя). Толькі тады Японія прызнае новую дзяржаву, калі пераканаецца, што яна „будзе шчыра і сумленна шанаваць (накіненыя ей Японіяй!) гандлёвыя ды палітычныя трактаты“... Але—што будзе „шанаваць шчыра“, можна не сумлявацца: гарантуюць гэту шчырасьць тыя 100.000 японскага войска, ня кажучы ўжо аб тысячах урадоўцаў, асаднікаў ды паліцыянтаў японскіх, якія ўжо прывезены ў новую „незалежную дзяржаву“ з Японіі...

### Паўстаньне ў Карэі.

У Карэі на граніцы Манчжуры выбухла паўстаньне проці Японіі.

Характэрна, што карэйскія паўстанцы аб'ядналіся з манчжурскімі партызанамі проці новага манчжурскага ўраду.

Японія вінаваціць у паўстаньні камуністаў, бачучы „уплывы радавага ўраду“, дый жорстка расправляецца з паўстанцамі. Паўстаньне ахоплівае паўночна-ўсходні абшар Карэі, дзе стыкаюцца яе граніцы з Манчжурыяй і дальня-ўсходняй радавай рэспублікай. І ў гэты раён усьцяж—„дзеля спыненьня паўстаньня“—сьцягіваюцца японскія войскі. З свайго боку і Саветы падвозяць пад граніцу значныя сілы дый украпляюць яе, што вельмі нэрвуе японскі ўрад. Што з гэтага можа выбухнуць у кожную хвіліну, хіба-ж яна.

---

## Жыцьцё Польшчы.

### Канфэрэнцыя былых прэм'ераў у Спале.

У Спале—ў прысутнасьці п. Прэзыдэнта—адбылася нядаўна нарада былых прэм'ераў (пачынаючы, зразумела, толькі ад 1926 году). Аб чым ішла тамака гутарка, афіцыяльных вестак блізу няма. Опозыцыйныя газэты пішуць, быццам нарада склікана п. Прэзыдэнтам з пачыну мін. замежных спраў Залескага, на якога зрабілі быццам націск францускі і англійскі ўрады, устрывожаныя цяжкім гаспадарчым і палітычным (?) станам Польшчы. Цікаўна, што ў канфэрэнцыі (як падае „Słowo“) прымаў учасьце такжа генарал Рыдз-Сьміглы.

### „Дараваньня“ падаткаў ня будзе.

У газэтах зьмешчана гутарка мін. скарбу Я. Пілсудскага, у якой ён заяўляе, што

грамадзянінам Польшчы Любарскім, які прыехаў у Маскву — як польскі дыплёматычны кур'ер". Усевалад Любарскі, як казаў у сваей прамове Крыленка, служыў у войску Балаховіча (?).—Прысуд сьмерці выпаўнены.

# З усяго сьвету.

### Перамога Гіндэнбурга.

Пры паўторным галасаваньні на прэзыдэнта Нямеччыны ў мінулую нядзелю Гіндэнбург атрымаў 19,359,642 галасы, Гітлер—13,417,460 галасоў і Тэльман (кандыдат камуністаў) — 3,706,388 гал. Гэтак выбраны Гіндэнбург.

Характэрна, што за Гіндэнбурга пададзена на 700 тысяч галасоў больш, чым пры першым галасаваньні, а Гітлер здабыў аж 2 з лішкам міліёны новых галасоў. Апошняе тлумачаць тым, што лічба галасоў, паданых за кандыдата камуністаў, зьменшылася на 1 мільён 200 тысяч, і гэтыя галасы быццам пайшлі на Гітлера.

### Канфэрэнцыя 4 дзяржаў у Лёндане.

6 красавіка пачалася ў Лёндане канфэрэнцыя 4 дзяржаў: Францыі, Англіі, Нямеччыны і Італіі—ў справе францускага праекту „блёку Прыдунайскіх дзяржаў".

Францускі праект, як ведама, стаіць за блёкам толькі пяцёх прыдунайскіх дзяржаў —„бяз удзелу ў ім вялікіх дзяржаў" (чытай: Нямеччыны...). Нямецкі праект, наадварот, трэбуе далучэньня да блёку Нямеччыны, як бясспрэчна прыдунайскай дзяржавы, а так сама Італіі. Францыя прапанавала Нямеччыне за адмову ад удзелу ў блёку вялікія ўступкі ў адшкадаваньнях (да 100 міл. у год „скідкі"), а Італіі—за тое-ж—уступкі ў Тунісе дый у спорцы аб марскіх збраеньнях. Выявілася, што Англія, так сама, як Нямеччына і Італія, разглядае справу блёку, як справу выключна гаспадарчую, дык яна адмовілася прымаць удзел ў фінансаваньні блёку. Такім чынам Францыя адна ўзяла-б на сябе яго фінансаваньне, ці фактычна сталася-б фінансавым дыктатарам (як і палітычным) усей сярэдняй Эўропы — ўжо са згодай усіх вялікіх дзяржаваў Эўропы.

Надзвычайна характэрна, што — ў той час, як Францыя выразна ня пускае Польшчу ў блёк прыдунайскіх дзяржаў, падкапываючы гэтым гаспадарчае разьвіцьцё Польшчы, нямецкі плян трэбуе ўключэньня ў гаспадарчую фэдэрацыю гэтых дзяржаў і Польшчы.

Ясна, што пры такіх разыходжаньнях канфэрэнцыя не дала спадзяваных у Францыі вынікаў і разьехалася ні з чым; гутаркі, праўда, нібы-то маюць яшчэ вясьціся пазьней у Жэнэве, але дэлегаты Італіі і Нямеччыны ня маюць ніякае надзеі на магчымасьць згаварыцца.

### Незалежніцкі рух у Галяндзкай Індыі.

У Галяндзкай Індыі шпарка разьвіваецца незалежніцкі рух, на чале якога стаіць інжэнер Соэкарно, якога ў Галяндыі называюць „Гандзі Галяндзкай Індыі", а жыхары апошняе—„айцом Індэнэзіі",(—так называюць незалежнікі свае „будучае гаспадарства"). У процівагу гэтаму руху галяндцамі сьпешна творыцца „вялікая галяндзкая дзяржаўная партыя", якая мае аб'яднаць усе існуючыя ўжо арганізацыі валадароў-галяндцаў.

# ХРОНІКА.

— **Як адбылося сьвяткаваньне нацыянальнага сьвята.** Сёлета ў сталіцы Зах. Беларусі — Вільні — сьвяткаваньне 14-х угодкаў абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі ўладзіў адзін толькі Цэнтрасаюз. Аж дзіўна, што, ня гледзячы на незалежніцкія рэзалюцыі „візоў" беларускае хадэцыі на сёлетнім зьезьдзе яе, — павадыры гэтае партыі якраз сёлета адступіліся ад традыцыйнага абходу... Злыя языкі зварачаюць увагу на тое, што гэтак званы хадэцкі „Нацком" у папярэднія гады завёў ня вельмі прыгожую моду банкетаваньня ў гэты дзень—у найбольш „панскім" рэсторане Жоржа ў Вільні, — а як сёлета ў дзень 25 сакавіка прыпадала каталіцкая вялікая пятніца, і ксяндзом публічна банкетаваць не выпадала, дык яны палічылі за лепшае зусім не рабіць абходу ў гэты дзень, чым рабіць яго „на-суха"...

Абход Цэнтрасаюзу, як заўсёды, адзначаўся павагай і глыбокім ідэйным зьместам. На малебен у Пятніцкай царкве, — праўда невялічкай і цеснай, — сабралася больш народу, чым царква магла зьмясьціць. **Сьв. Кульчыцкі** сказаў вельмі прыгожае, захапліваючае казаньне ў сувязі з нашым нацыянальным сьвятам. У царкву, а пасьля і на Акадэмію, беларуская студэнцкая карпарацыя „Скарынія" прыслала сваю дэлегацыю з сваім сьцягам.

У 12 гадз. у салі Віленскае Беларускае Гімназіі, гэтак сама да краёў напоўненай публікай, старшыня Цэнтрасаюзу гр. Трэпка кароткай прамовай аб значэньні абходу адчыніў урачыстую акадэмію. Пасьля ўступнога слова аркестр адыграў нацыянальны гімн „Ад веку мы спалі", які прысутныя выслухалі стоючы. Тады ўзяў слова гр. **В. Грышкевіч** і ў прыгожай прамове нарысаваў тыя абставіны, на грунце якіх паўстаў акт 25-га сакавіка 1918 г., ды прачытаў тэкст „Устаўнае Граматы", абвяшчаўшае незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі. У канцы прамовы грам. Грышкевіч запрапанаваў ушанаваць устаньваньнем памяць усіх, хто аддаў свае жыцьцё за Беларусь. Прысутныя ўсталі, і аркестр адыграў пахаронны марш. Урэшце грам. **А. Луцкевіч** прачытаў даўжэйшую лекцыю на тэму: „Незалежніцкая ідэя ў беларускай поэзіі", ілюструючы свае думкі чысьленымі цытатамі з твораў беларускіх поэтаў з часоў „Нашае Нівы", іх пазьнейшых наступнікаў, ды поэтаў Усходняе і Заходняе Беларусі з апошніх часоў. — Пад сільным уражаньнем ад адбытае ўрачыстасьці — пры гуках „Ад веку мы спалі"—разыйшлася публіка з традыцыйнага нашага абходу.

Эстраду вельмі прыгожа ўдэкараваў тканінамі і дыванамі, між якімі віднелася візія „Пагоні", наш мастак П. Сергіевіч.

— **Агульны сход Т. Б. Ш.** Гэтым падаецца да ведама, што 12 траўня г. г. а гадз. 11 дня мае адбыцца Агульны Сход Т-ва Беларускае Школы ў памешканьні Галоўнае Управы пры Кіеўскай вул. 4—24 у Вільні.

**Галоўная Управа**
**Т-ва Беларускае Школы.**

— **Лекцыя „Аб будаўніцтве з дрэва".** У мінулую нядзелю адбылася чарговая лекцыя, зладжаная Бел. Навук. Т-вам. Чытаў архітэктар Л. Дубейкоўскі на тэму „Аб будаўніцтве з дрэва". Лекцыя была багата ілюстравана адбіткамі на экране. Зьмест быў вельмі цікавы — з увагі на тое, што дрэва — гэта-ж той галоўны матэрыял, якім абумоўлены формы беларускага будаўніцтва наагул. Цікаўны былі і праекты будынкаў самога прэлегента.

На жаль, з прычыны спазьненьня выхаду нашае газэты з весткай аб лекцыі, шмат хто з жадаўшых паслухаць гэтую лекцыю ня мог на яе папасьці.

— Наступная лекцыя адбудзецца толькі пасьля праваслаўнага Вялікадня.

— **„Зорным шляхам".** Выйшаў з друку другі ўжо зборнічак вершаў нашага маладога поэты — сына места Вільні — **Хведара Ільяшэвіча.** Невялічкая кніжачка (64 стр.) у прыгожай вокладцы. Выданьне Беларускага Выдавецкага Т-ва.

— **Падзяка.** Дырэкцыя Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні гэтым дзякуе за ахвяраваныя рэчы наступным асобам: 1)

---

хіба-ж толькі два-тры разы ў жыцьці: пры хрэзьбінах, пад вянцом дый у паніхідзе па ім...

В. Ластоўскі ў сваім „Кнывічы" вельмі ўдатна паказаў калісьці, як зьмяняюцца формы беларускіх імёнаў з векам чалавека. Імя быццам само расьце побач з ростам веку і павагі чалавека, дарастаючы ўрэшце да свайго першаўзору ў рытуальнай мове народу — да поўнага хрысьціянскага імя „нябеснага патрона" яго...

Дык—ці-ж трэба пазбаўляць наш народ гэтых хрысьціянскіх першаўзораў і патронаў, сьведама калечачы іх поўныя імёны — дзеля нейкай сумліўнай „фонэтычнай лёгкасьці" „вымовы і правапісу собскіх імёнаў"?

Недарэмна-ж горка наракаў наш поэта-барацьбіт за чалавечую годнасьць беларуса на цяжкую долю апошняга, адчуваючы асабліва цяжка ў першую чаргу гэтую адсутнасьць у нашым жыцьці пашаны да асабістае годнасьці чалавека—якраз у форме нашых імёнаў:

„Невясёлая старонка
„Наша Беларусь:
„Людзі—Янка да Сымонка,
„Птушкі—дрозд ды гусь"...

Праўда, шмат, ах, шмат хто з беларусаў засуджаны лёсам на тое, каб застацца навек „Янкам" ці „Сымонкам" дый ніколі не дарасьці да Івана ці Сымона, часам навет — ня гледзячы на вопратку „вышэйшай асьветы"...

Але-ж — ці-ж можна жадаць, каб увесь наш багаты нераскрытымі Божскімі сіламі Народ Беларускі навек застаўся „народам Янак" і ніколі ня стаўся „народам Іванаў ці навет — Іоаннаў?!..."

—·—

Наш кароткі агляд і ацэнка — на пары высуненых самім нашым філёлёгам у агульную прэсу прыкладаў „філёлёгічнага творства" д-ра Янкі Станкевіча—скончаны. Скарыстаўшы з яго адказу грамадзяніну А. Н., мы далі на гэтых прыкладах агульную характэрыстыку гэтага „творства", ацанілі яго „навуковасьць". Мы паказалі, наскольkі непрадуманы блізу ўсе „правілы" гэтага „дасьледчыка" і „рэфарматара" нашае мовы, наскольki „скарастрэльная" ўся ягоная „філёлёгія". Бо-ж можна — на падставе часткі—ў значнай меры судзіць і аб цэлым.

Для агульнай прэсы й гэтага даволі. Для прэсы спэцыяльнае, калі-б яна існавала ў нас (ня кажам, зразумела, аб „Роднай Мове"—асабістым „хвальварку" д-ра Я. Станкевіча), варта было-б даць падрабязны агляд і разбор усяго „навуковага даробку" нашага філёлёга.

Вывады, якія пакуль-што можам тутака зрабіць, — такія. Усе „дасьледы" гр. Станкевіча над мовай — яшчэ толькі першыя вучнёўскія спробы „самастойнай навуковай працы", толькі „чарнавікі", ці „брульёны". Ня будзем, зразумела, адмаўляць ім ведамай, часам бясспрэчнай вартасьці. Часта ў іх трапляецца трафная заўвага, добрая думка, шчасьлівая прапазыка. Але ўсё гэта патрабуе далейшага й дакладнейшага апрацаваньня, крытычнага перагляду. Толькі тады — з вялізарнай „на вагу", калі не на павагу — масы гэтых чарнавікоў — нейкую дзесятую ці сотую долю „дасьледаў" ды „выходаў" п. Станкевіча можна будзе перапісаць „на-бела", як нешта прынятае ў навуцы, як увайшоўшае ў граматыку. Пакуль-што, аддаючы належную пашану да запраўды-ж вынятковага ў нашым бедным грамадзянстве гарачага зацікаўленьня працай над роднай мовай нашага маладога філёлёга, можам толькі пажадаць яму насамперш больш самакрытыкі дый менш самазахапленьня, а побач з тым і больш пашаны да працы тых, якіх ён — так „лёгка", з такім поўным сябе відам сумліўнай перавагі — „крытыкуе". Маем тутака на мысьлі ў першую чаргу хаця-б Тарашкевіча, да якога наш скарастрэльны доктар хіба ў свой час дарасьце і сам...

—·—

У заключэньне — яшчэ пару слоў.

Мова народу, гэта-ж — яго душа, яго мысьль, яго жыцьцё, яго гісторыя, захаваныя жывымі ў слове. „Філёлёгія— пазнаньне пазнанага", трафна сказаў нехта. Таму, кожны філёлёг павінен быць — і псыхолёгам, і філёзофам, і гісторыкам, а навет крыху — поэтам. А перад усім павінен быць жывым, асьвечаным, чуючым і мысьлячым чалавекам. Бяз гэтага ўсяго ніколі ён ня будзе запраўдным вучоным, доктарам, а застанецца толькі „научоным", натасканы тэхнічна, „фэльчарам філёлёгіі", які недахоп запраўднага крытычнага навуковага мышленьня замяняе, як гэта бывае заўсёды, — самазахопленасьцяй ды бескрытычнасьцяй паўведы й пагарды да працы і веды другіх...

Філёлёг.

